**КВАТЭРНЫЯ «ПАДАТКІ»**



І ВУЛІЧНЫЯ ПРАТЭСТЫ

СТАР. 4-5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**ДЗЯРЖАВА ПА-РАНЕЙШАМУ**

НЕ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД РЭКЕТУ



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

15.08.13-21.08.13 г.


# МАДЭРНІЗАЦЫЯ ЯК ПРЫКМЕТА ХУТКАГА КАНЦА РЭЖЫМУ?

Новай “фішкай” лукашэнкаўскай эканамічнай мадэлі амаль год таму была абвешчаная мадэрнізацыя. І вось цяпер нават ідэолагі гэтага працэсу пачынаюць абмяркоўваць яго правал.

## “МЫ З’ЯЎЛЯЕМСЯ ПА МНОГІХ НАПРАМКАХ НЕКАНКУРЭНТАЗДОЛЬНЫМІ”

Як вядома, адказным за мадэрнізацыю быў прызначаны намеснік прэм’ер-міністра 70-гадовы Пётр Пракаповіч. Днямі ён даваў справаздачу Аляксандру Лукашэнке.

Вельмі цікава чытаць паведамленне прэзідэнцкай прэсавай службы пра гэтую падзею. Паводле законаў жанра, пачынаецца яно з канстатацыі поспехаў: “У цэлым за першае паўгоддзе ўдалося дабіцца станоўчых крокаў у гэтым напрамку. Распрацаваны і рэалізуюцца праграмы мадэрнізацыі на 3680 прадпрыемствах з дзяржаўнай доляй уласнасці і каля 1 тыс. прыватных”.




*Мадэрнізаваць, мадэрнізаваць і яшчэ раз мадэрнізаваць*

як палова прадпрыемстваў выконвае графік мадэрнізацыі. І, нарэшце, прызнанне: «Сёння мы з’яўляемся па многіх напрамках неканкурэнтаздольнымі».

> “Як з’едліва прыгадаў эканаміст Леанід Злотнікаў, апошняя пяцігодка перад тым, як ляснуў СССР, якраз мела назву “пяцігодкі тэхнічнага прагрэсу і паскарэння”. Але тагачасная мадэрнізацыя правалілася, а разам з ёй сканала і дзяржава, шмат запазычанняў з якой цяпер актыўна выкарыстоўвае Лукашэнка”.

Але паказальна, што большая частка афіцыйнага паведамлення прысвечаная праблемам. Так, Пракаповіч са шкадаваннем канстатаваў, што паказчыкі за першае паўгоддзе яшчэ далёкія ад запланаваных у цэлым па годзе. Не хапае інвестыцый, таму менш

## БЯЗЛІТАСНАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

Насамрэч становішча значна горш, чым здаецца Пракаповіча. Бо нават тая частка шляху, якая нібыта пройдзена, збольшага выканана на паперы. Дырэктары прадпрыемстваў проста падалі тую інфармацыю, якую ад іх чакаюць, каб не пазбавіцца сваіх пасадаў. А рэчаіснасць…

Пра рэчаіснасць распавёў кіраўнік ураду Міхаіл Мясніковіч. На мадэрнізацыю сельскай гаспадаркі за апошнія два з паловай гады выдаткавана 5 мільярдаў даляраў, але “належнай аддачы”, як мяркуе прэм’ер, няма.

Чаму? Адказ можна знайсці, як ні дзіўна, у Пятра Пракаповіча: «Ніякае самае дасканалае абсталяванне, тэхналогіі не будуць эфектыўна працаваць, калі не выбудавана сістэма кіравання, сістэма матывацыі работнікаў, захавання вельмі строгай дысцыпліны і тэхналогій.

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## ШКОЛЫ І САДКІ ЗАКРЫВАЮЦЦА

**Толькі ў Віцебскай вобласці плануюць зачыніць 25 школ і тры садкі.**

“Усталяваць павышэнне тарыфных ставак настаўнікам устаноў адукацыі на 25%... Рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, у падпарадкаванні якіх знаходзяцца ўстановы адукацыі, накіроўваць сродкі, вызваленыя ў выніку аптымізацыі дзяржаўных устаноў адукацыі і колькасці іх работнікаў, на павышэнне заработнай платы і стымуляванне працы педагагічных работнікаў”, — чытаю Пастанову Саўміна № 689.

Еўрарадыё вырашыла высветліць, як школы зарабілі на аптымізацыі, лічы на скарачэнні. Аптымізацыя ідзе: школы закрываюцца, супакойваюць ва Упраўленні адукацыі віцебскага аблвыканкаму:

“Да пачатку 2013-2014 году закрыць 3 дзіцячыя садкі, 25 школ, у тым ліку пяць вечаровых, і рэарганізаваць 33”.

За кошт такой аптымізацыі тут плануецца “зарабіць” амаль 11 мільярдаў рублёў. Але невядома пакуль, куды накіраваць педагогаў, якія вызваляюцца.

Настаўнік гісторыі з Гродна Дзяніс працуе ў школе па размеркаванні. Свой новы заробак пасля павелічэння яшчэ не падлічваў.

“Зараз у мяне каля трох мільёнаў. Пакуль адзін жыву, то хопіць пасля павышэння, ды і так хапала. Але, хутчэй за ўсё, сыду са школы пасля адпрацоўкі, бо грошай тут не заробіш”, — прагназуе настаўнік.

**АРЦЁМ МАРТЫНОВІЧ**

# ЦІ ГАТОВЫЯ ВЫ ДА ПАДВЫШЭННЯ КОШТАЎ НА "КАМУНАЛКУ"?

Урад у чарговы раз хоча зрабіць істотна даражэйшымі тарыфы на жыллёва-камунальныя паслегі. Але вось ці гатовае матэрыяльна і псіхалагічна наша насельніцтва? На гэтае пытанне шукалі адказ эксперты і простыя чытачы "Тут і цяпер".




*Кошты павысяць, а сэрвіс?*

**АЛЯКСАНДР САСНОЎ, БЫЛЫ МІНІСТР ПРАЦЫ.**

"ТРЭБА АДНАЧАСОВА ПАДВЫШАЦЬ ЗАРОБКІ І ПЕНСІІ".

– Калі гаворка вядзецца пра падвышэнне на трыццаць працэнтаў, то гэта неістотнае падвышэнне. Бо яны будуць вымушаныя за год падняць на тыя ж працэнты пенсіі і заробкі. Мне падаецца так. Я лічу, што калі адпускаць тарыфы на камунальныя паслугі, то трэба адпускаць і заробкі з пенсіямі. А вось, калі робіцца адно і ня робіцца другое, тады гэта дрэнна.

**НАДЗЕЯ БЯЛЬЧУК, ПЕНСІЯНЕРКА:**

"ГЭТА НЕ БЯДА".

– Няма ніякай праблемы. У нас камунальныя паслугі вельмі нізкія. Радня з Расіі проста зачараваная нашымі тарыфамі. Таму пры маёй пенсіі ў два мільёны я павышэнне "камуналкі" вытрымаю. Гэта не бяда.

**ЛЕАНІД ЗАІКА, ЭКАНАМІСТ:**

"ТАРЫФЫ НААДВАРОТ ТРЭБА ПАНІЖАЦЬ".

– Што яны збіраюцца павышаць? Паніжаць трэба. Народ дураць. Асабіста Лукашэнка хацеў даведацца, колькі каштуе адзін джоўль энергіі, колькі каштуе ўборка адной тоны смецця. І калі ён праводзіў нараду, ён сказаў, што ніхто яму не змог адказаць. Колькі каштуюць затраты на ацяпленне дома. Таму, калі прэзідэнту не могуць сказаць, а ўсім гавораць, што мы плацім мала, то гэта агульнанацыянальная хлусня. Мы куплялі газ у Расіі па 235 доляраў тры гады таму. Пасля заключэння пагаднення аб Мытным саюзе мы купляем газ па 165 доляраў. Адпаведна, за апошнія два гады цяпло для Беларусі стала танней. Практычна больш, чым на траціну. Пытанне – а чаму, як толькі Расія стала газ прадаваць танней, канунальнікі не знізілі аплату цяпла? Мытны саюз – тэарэтычна выгадны з пункту погляду спажыўцоў. Газ становіцца танней. Пасля падпісання умоўная "жыроўка" са 100000 мусіць зменшацца да 70000 рублёў. Калі мы ўступілі ў Мытны Саюз мы ахвяравалі многім. Мы спынілі куплю патрыманых заходніх аўтамабіляў. І зараз мы купляем у Расіі самую танную нафту за апошнія дзесяць гадоў. Па 380 доляраў. Дзякуючы Мытнаму саюзу. Чаму бензін не стаў танней? Пан прэм'ер-міністр, Вам калькулятар даслаць у падарунак? Значыць усе свае памылкі Вы аплачваеце за наш кошт. Па маім разлікам бензін павінен каштаваць 5000 рублёў. Калі б мы не ўступалі ў Мытны саюз пытанняў не было б. А так нам дураць галаву. З беларусаў робяць дурняў. Таму на пытанне – ці гатовы я да павышэння тарыфаў... Гатовы, калі будзе апублікаваны спіс усіх растратчыкаў з ЖылКамГаса і Міністэрства

Эканомікі, а шэраг чыноўнікаў атрымае турэмныя тэрміны, як антынародныя элементы. Пара саджаць, як казаў таварыш Сталін.

*Заканчэнне на стар. 8*

**АФІЦЫЙНА**

Эканамічныя ўлады ініцыююць значны рост тарыфаў на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў 2014 годзе. З такой прапановай выступілі прадстаўнікі эканамічных ведамстваў у межах працы па падрыхтоўцы прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2014 год, піша **БелПАН**.

Памер пакрыцця насельніцтвам кошту жыллёва-камунальных паслуг (ЖКП) на працягу года плануецца давесці да ўзроўню не менш як 30%.

Мяркуецца, што рост тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі стане адной з мер па звязванні дадатковых грашовых даходаў насельніцтва. Паводле ацэнак ведамасных спецыялістаў, у 2013 годзе сярэдняя зарплата складзе 561 долар, а ў 2014-м — вырасце да 625 доляраў.

Нагадаем, зацверджаная Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2011–2015 гады прадугледжвае, што ўзровень пакрыцця насельніцтвам расходаў на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў 2015 годзе складзе не менш як 60%.

Як паведаміў у ліпені міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Шорац падчас «прамой лініі» ў газеце «Звязда», цяпер насельніцтва пакрывае 16,3% кошту паслуг, што аказваюць жыллёва-камунальныя арганізацыі.

Раней Мінфін паведамляў, што па ўсім комплексе жыллёва-камунальных паслуг, уключаючы паслугі энергетыкаў (цеплазабеспячэнне ад цеплавых крыніц ДВА «Белэнэрга», а таксама газа- і электразабеспячэнне), насельніцтва ў 2012 годзе пакрывала прыкладна 22% ад расходаў.

Варта адзначыць, што да гэтага часу з'явілася прапанова, якая дазваляе не ўлічваць рост тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі пры разліку інфляцыі, якую эканамічныя ўлады плануюць у 2014 годзе знізіць.

«Уяўляецца магчымым вынесці змяненне гэтых тарыфаў за межы разлічанага органамі статыстыкі індэксу спажывецкіх цэн, які прымяняецца ў якасці паказчыку інфляцыі», — адзначыў першы намеснік дырэктара Навукова-даследчага эканамічнага інстытута (НДЭІ) Мінэканомікі Віктар Пінігін у сваім артыкуле, прысвечаным падрыхтоўцы прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2014 год і апублікаваным ў ліпеньскім нумары «Экономического бюллетеня», які выдае НДЭІ.

Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1

Калі мы гэтага не зробім, то не зможам эфектыўна выкарыстоўваць тыя рэсурсы, якія ўкладзём у тэхнічную мадэрнізацыю».

### ПАДКЛАСЦІ КРАІНЕ СВІННЮ

Але сучасная сістэма кіравання патрэбная не толькі

# МАДЭРНІЗАЦЫЯ ЯК ПРЫКМЕТА ХУТКАГА КАНЦА РЭЖЫМУ?

ў эканоміцы, але й у палітыцы. Бо інакш не атрымаецца нічога. Усе спробы неяк так рэфармавацца, каб эканоміка зрабілася эфектыўнай, а ўлада засталася аўтарытарнай, – марныя.

Пра гэта, ў прыватнасці, сведчыць досвед Савецкага Саюзу. Як з'едліва прыгадаў эканаміст Леанід Злотнікаў, апошняя пяцігодка перад тым, як ляснуў СССР, якраз мела назву "пяцігодкі тэхнічнага прагрэсу і паскарэння". Але тагачасная мадэрнізацыя праваліліся, а разам з ёй сканала і дзяржава, шмат запазычанняў з якой цяпер актыўна выкарыстоўвае Лукашэнка.

Яшчэ адзін экспэрт Яраслаў Раманчук адзначае ў артыкуле на сайце навукова-даследчага цэнтру МІзэса: "Михаил Мясникович вкупе с Петром Прокоповичем могут в качестве своего дембельского аккорда подложить стране свинью в виде триллионов рублей на так называемые «важнейшие инвестиционные приоритеты». В первой половине 2013 г. стало очевидным, что модернизация у нас идет так, как в свое время перестройка у Михаила Горбачева: начали за здравие, а закончили за упокой…"

Падобна, што мадэрнізацыю можна разглядаць як прыкмету хуткага канца рэжыму, бо ён паступова вычэрпвае свае рэсурсы і, разумеючы гэта, спрабуе змяніцца. А змяніцца не здольны.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

**АФІЦЫЙНА**

### ТРЫМАЦЬ НА ПАСТАЯННЫМ КАНТРОЛІ

Мадэрнізацыя з'яўляецца важнейшым пытаннем для краіны, паколькі дае магчымасць за кошт павышэння прадукцыйнасці працы забяспечыць рост жыццёвага ўзроўню насельніцтва і вырашыць праблему дасягнення ўстойлівага дадатнага сальда знешняга гандлю, яго збалансаванасці, павысіць канкурэнтаздольнасць тавараў. Таму кіраўнік дзяржавы трымае на пастаянным кантролі пытанні правядзення комплекснай мадэрнізацыі і сур'ёзна патрабуе з урада за правядзенне гэтай работы, адзначылі ў прэс-службе, піша БелТА.

У той жа час віцэ-прэм'ер са шкадаваннем канстатаваў, што паказчыкі за першае паўгоддзе яшчэ далёкія ад запланаваных у цэлым па году. Так, выручка на аднаго занятага ў эканоміцы за гэты перыяд вырасла на 11,5 працэнта адносна паказчыкаў мінулага года, у той жа час па выніках года яна павінна складаць не менш як 25 працэнтаў. Сярод вытворчасцей, якія не выконваюць гэты паказчык, прадпрыемствы Міністэрства прамысловасці, канцэрна «Белнафтахім».

Па выніках работы за 6 месяцаў гэтага года інвестыцыі ў асноўны капітал склалі 108,8 працэнта адносна першага паўгоддзя мінулага года. Гэта крыху вышэй за прагнозныя паказчыкі (106 працэнтаў), аднак таксама з'яўляецца вельмі недастатковым для забеспячэння выканання запланаванага праграмай мадэрнізацыі па ўсіх прадпрыемствах. Паводле слоў Пятра Пракаповіча, фактычна на сённяшні дзень менш за палавіну прадпрыемстваў выконваюць графік.

На яго думку, для вырашэння задач мадэрнізацыі неабходна прымаць дадатковыя меры.

Аднак самае моцнае адставанне, адзначыў віцэ-прэм'ер, - у правядзенні арганізацыйна-эканамічнай мадэрнізацыі. «Ніякае самае дасканалае абсталяванне, тэхналогіі не будуць эфектыўна працаваць, калі не выбудавана сістэма кіравання, сістэма матывацыі работнікаў, захавання вельмі строгай дысцыпліны і тэхналогій. Калі мы гэтага не зробім, то не зможам эфектыўна выкарыстоўваць тыя рэсурсы, якія ўкладзём у тэхнічную мадэрнізацыю», - сказаў Пётр Пракаповіч.

Ён падкрэсліў, што задача ў тым, каб стварыць сістэму эканамічнага кіравання, якая забяспечыць канкурэнтаздольнасць беларускай прадукцыі, яе адпаведнасць лепшым сусветным паказчыкам.

# BR500 000 НЕ РЕШАТ ПРОБЛЕМЫ

**Молодым работникам агропромышленного комплекса Беларуси указом президента от 12 августа установлены ежемесячные доплаты. Поможет ли эта мера удержать молодежь на селе?**

### ВНЕШНЕ СИМПАТИЧНО

Молодым специалистам с высшим и средним специальным образованием, принятым на работу в организации АПК, в течение двух лет будут доплачивать двукратный размер тарифной ставки первого разряда, сообщает БЕЛТА. Эти доплаты отнесут на затраты по производству и реализации товаров (работ, услуг), учитываемых при налогообложении.




*Деревня и молодые специалисты разговаривают на разных языках*

Руководителям и специалистам с высшим и средним специальным образованием, отработавшим два года по распределению и продолжающим работать в этих организациях по контракту, доплаты установлены еще на три года в трехкратном размере тарифной ставки первого разряда за счет средств республиканского бюджета, предусмотренных на развитие сельскохозяйственного производства, рыбоводства и переработки сельскохозяйственной продукции.

С 1 апреля 2013 года тарифная ставка первого разряда для оплаты труда работников бюджетных организаций и иных организаций, получающих субсидии, работники которых приравнены по оплате труда к работникам бюджетных организаций, установлена в размере Br250 тысяч.

*Заканчэнне на стар. 5*

# ЦІ ПРАВЯДУЦЬ ВЫСОКІЯ КВАТЭРНЫЯ "ПАДАТКІ" ДА ВУЛІЧНЫХ ПРАТЭСТАЎ

"Тут і цяпер" працягвае аналізаваць адно з самых актуальных і балючых для нашага насельніцтва пытанняў – павышэнне тарыфаў на камунальныя паслугі на працягу наступнага года аж да 30 працэнтаў .



Гуляць з нашым ЖКГ не рэкамендуецца

**Ці можа істотнае павышэнне аплаты за камунальныя паслугі прывесці да сур'ёзных пратэстаў?**

**Як быць, калі за пратэрмінаваны плацёж раптам адключылі святло?**

**І наогул, ці можна зэканоміць на камуналцы?**

## ЯК ЎКЛЮЧЫЦЬ СВЯТЛО АБЦУГАМІ (ПЛОСКОГУБЦАМИ)

Неяк на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» піяр-менеджэр **Аляксандра Рогач** распавяляла гісторыю пра тое, як яна вярнулася з камандзіроўкі, а дома няма святла. Як высветлілася пазней, Аляксандра на дзень пратэрмінавала плацёж за камунальныя паслугі і яе такім чынам пакараў ЖЭС-15.

Варта заўважыць, што з такой прафілактычнай мерай сутыкаліся многія, хто адносіцца да гэтага ЖЭСу. І, варта заўважыць, некаторых гэта жорсткая мера дысцыплінавала – усё ж такі не весела сядзець пару гадзін у цемры ў чаканні аварыйкі або электрыка з ЖЭСа.

*«Не магу сказаць, што я не дысцыплінаваная, – распавядае Аляксандра. – Я вельмі адказны чалавек. У мяне, напрыклад, інтэрнэт-банкінг, пры дапамозе якога плачу камунальныя паслугі, але бываюць сітуацыі, калі знаходжуся ў ад'ездзе, камандзіроўцы, здараецца, што і адпачынак выпадае на даты, калі трэба аплаціць камуналку. Таму ўзнікаюць пратэрміноўкі. Я наогул не лічу, што затрымка аплаты на адзін дзень робіць чалавека злачынцам, і што яму адразу за гэта трэба выключаць святло. Гэтая сітуацыя настолькі мяне абурае, што проста не можа мяне зрабіць больш дысцыплінаванай!*

*Сітуацыя з гвалтоўным выключэннем святла здаецца мне несправядлівай. ЖЭС не мае права адключаць святло за нявыплату камунальных паслуг, тым больш калі за святло заплачана. І па свеце ў мяне асобныя адносіны з зусім іншай арганізацыяй! На мой погляд, у дадзенай сітуацыі выключэнне святла раўнасільна таму, што яны спусцілі б мне колы ў аўтамабілі. Гэта неправамерна. Хай бы ваду выключалі або тое, за што я не заплаціла. Таму ў мяне такі ўнутраны пратэст.*

*Дарэчы, мой малады чалавек навучыў мяне, як быць у сітуацыі, калі вяртаешся дадому, а там няма святла. І цяпер я пры дапамозе абцугоў ўмею ўключаць святло назад. Проста падняць адпаведны рубільнік у шчытку на калідоры ўсё могуць. А я пайшла далей і цяпер ведаю і ўмею, што і дзе трэба добра падкруціць... »*

Варта заўважыць, што Саша не з'яўляецца злосным неплацельшчыкам камунальных паслуг. Яна іх рэгулярна аплачвае, хай нават часам з невялікім спазненнем.

*– Я змяніла шмат кватэр, і часам так здаралася, што магла па некалькі месяцаў не аплачваць камуналку,* – кажа яна. *– Калі прыходзіла плаціць, мне налічвалі пеню – і я несла матэрыяльную адказнасць, адказвала рублём.*

*А калі выключаюць святло, хто будзе адказваць за страты, якія панесла я? Напрыклад, хто ў гэтай сітуацыі аплаціць палову сапсаванага дзіка, які ляжаў у маім халадзільніку? Я была ў камандзіроўцы, два дні не было святла. А калі б я была ў адпачынку двухтыднёвым? Я потым тэлефанавала ў ЖЭС і высвятляла з імі адносіны. Мне параілі напісаць скаргу. Але ў выніку ўсё набалелае проста было выказана дыспетчару..."*

## ПАЎМІЛЬЁНА ЗА ШТО?

Уладальнікам кватэр, у якіх ніхто не прапісаны, сёння не пазайздросціш. Штомесяц ім даводзіцца аддаваць шалёныя сумы за камуналку – часам да мільёна ў месяц!

*– Я таксама жыву ў такой кватэры,* – кажа Аляксандра. *– І лічбы ў жыроўках вельмі высокія. Напрыклад, у зімовы час за камунальныя паслугі даводзілася аддаваць каля 700 тысяч, а то і больш. Улетку – 400. Усе мае сябры плацяць значна менш.*

## ЭКАНОМЯЦЬ НАВАТ НА ВАДЗЕ

Вядома, што далёка не ўсе ўкладваюцца ў адведзеныя нарматывы па вадзе. Напрыклад, калі ў кватэры прапісаны адзін чалавек, а жывуць двое, то нават пры самай строгай эканоміі ў запаветныя 4 куба ніяк не ўкласціся! Даводзіцца пераплачваць. І сумы немаленькія, бо перарасход вады лічаць па самых высокіх тарыфах.

**ПАРАЛЕЛІ**

Не так даўно многія сайты распавялі пра тых, хто купіў кватэры ў адным з самых дарагіх дамоў Беларусі – элітнай шматпавярхоўцы на набярэжнай Свіслачы. Усе жыхары дома, які будаваў вядомы бізнесмен Юрый Чыж – людзі заможныя, бо не кожны можа аддаць каля мільёна долараў за кватэру. І камунальныя плацяжы тут ўражлівыя. Так, як паведамляла газета «Наша ніва», за сярэднюю трохпакаёвую кватэру за месяц тут набягае больш за 2 мільёны рублёў.

Для параўнання: за трохпакаёвую кватэру плошчай прыкладна 47 метраў квадратных ў доме, які быў пабудаваны больш за 20 гадоў таму, сям'я з двух чалавек цяпер плаціць каля 300 тысяч.

«Мы жывем ў кватэры з дачкой, на дваіх выходзіць 8 кубоў вады, – распавядае псіхолаг Аксана Шляпіна. – Два месяцы ў нас гасцявалі бабуля з дзядулем, на гэты ж час прыязджала сястра з паўгадавалым сынам з-за мяжы. Вядома, расход вады значна вырас. І ў выніку два месяцы мы плацілі за кватэру амаль 600 тысяч! А яшчэ кажуць, што на вадзе не разбагацееш! Пасля гэтага я нават у інтэрнэце спецыяльна глядзела, як людзі спрабуюць эканоміць ваду. Як аказалася, тэма вельмі папулярная ...”

Дарэчы, як эканомяць на расходзе вады пенсіянеры, кватэры якіх абсталяваны лічыльнікамі – асобная тэма. Некаторыя кажуць, што, напрыклад, ноччу, калі прыходзіцца карыстацца ўнітазам, імкнуцца лішні раз не спускаць ваду ў зліўным бачку, прымаць душ не два разы на дзень, а або раніцай, альбо ўвечары. А пра тое, як эканомна мыць посуд, вам раскажа амаль любая гарадская бабулька: набраць у ракавіну або вялікую міску вады, капнуць на губку мыйнага сродку і намыліць такім чынам увесь посуд. Затым яе змыць – таксама ў ёмістасці, а ўжо затым пры неабходнасці спаласнуць пад праточнай вадой ...

## ПРАТЭСТЫ МОГУЦЬ БЫЦЬ

Старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч** лічыць так: калі ўлады прымуць рашэнне вельмі істотна і аднамомантна падвысіць кошты камунальных паслуг, то сур’ёзных пратэстаў не пазбегнуць.

*“Выпадкаў, калі даводзілася пратэрміноўваць тэрмін аплаты з-за таго, што не хапала грошай, у мяне не было,* – гаворыць палітык. – *Аднак насамрэч для пераважнай большасці беларусаў (і для мяне асабіста) гэта не тая сума, якую можна было б не заўважыць. І цяпер за камунальныя паслугі набягае зусім не малая сума, але асабліва адувальная яна ў зімовыя месяцы. Натуральна, лічбы не крытычныя, але тым не менш не сціплыя. Паўтаруся, асабліва зімой.*

*Я лічу, калі падвышэнне тарыфаў на камуналку будзе бясконцым і разбітым па часе па нейкіх адносна нязначных сумах, хоць нават па выніку будзе істотным, то наўрад ці гэта выкліча сур’ёзныя праявы абурэння ў насельніцтва. Зразумела, што пэўная незадаволенасць тарыфамі існуе і цяпер, але я лічу, што калі сур’ёзна ў адзін момант рэзка падвысіць тарыфы, гэта пацягне за сабой адкрытыя пратэсты”.*

## ТЫЧЫЦЦА І БЕДНЫХ, І БАГАТЫХ

Эканаміст **Аляксандр Чубрык**, якому за нявыплату адключалі толькі тэлефон, адзначае, што людзі ва ўсіх краінах даволі нервова рэагуюць на павышэнне камунальных плацяжоў. На яго думку, нічога дзіўнага ў гэтым няма.

– *Гэтыя выдаткі датычацца ўсіх: і бедных і багатых,* – гаворыць ён. – *Найбольш адчувальныя да іх людзі – пенсіянеры і маладыя сем’і, для якіх гэта значная частка бюджэту.*

*Не ўсім і не заўсёды зразумела, адкуль і якія лічбы бяруцца ў жыроўцы, але многія проста прывыклі – плацяць і плацяць. Ставяцца да гэтага як да такога дадатковага падатку. Ну а калі "падатак" падвышаецца, гэта мала каму падабаецца... Мне здаецца, важна, каб людзі неяк звязвалі тое, што яны плацяць за камуналку з тым, якую паслугу яны атрымліваюць ...*

**МАРЫНА МІТ**


...ЖЭС-14,15 УП «ЖРЭО Московского района г.Минска» ставит Вас в известность о необходимости погашения задолженности по коммунальным и иным платежам в размере [illegible] рублей и пени за несвоевременную оплату коммунальных платежей (постановление Совета Министров РБ от 25.08.1999г. № 1332) в сумме [illegible] рублей

В случае если вышеуказанная сумма, а также начисления за август месяц 2012г. не будут погашены до «25» сентября 2012г., **РСЦ направит в суд Московского р-на г. Минска исковое заявление о принудительном взыскании (учинит исполнительную надпись) о принудительном взы...**
Вас вышеуказанной суммы...

# BR500 000 НЕ РЕШАТ ПРОБЛЕМЫ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 3*

Выходит, молодые специалисты получат прибавку к зарплате в Br500 тысяч. Или немного больше, учитывая планируемое с 1 сентября повышение тарифной ставки первого разряда. Br750 тысяч сулят тем, кто останется в АПК после отработанного распределения. Неужели эти деньги решат проблему утечки молодых кадров из деревни?

## В СЕЛО КАЛАЧОМ НЕ ЗАМАНИТЬ

Впрочем, сначала эти кадры туда нужно заманить. Вузы сельскохозяйственного профиля в приемную кампанию-2013 столкнулись с недобором студентов даже на бюджетную форму обучения. Пришлось пойти на беспрецедентные меры: срок приема документов президентским указом был продлен на неделю. Исключение составили только экономические специальности и правоведение, которые традиционно пользуются большим спросом у абитуриентов.

Похоже, решение о доплатах стало логическим продолжением «расширенной» приемной кампании, считает председатель БКДП Александр Ярошук, ранее возглавлявший Республиканский комитет Белорусского профсоюза работников АПК.

По его словам, молодые люди просто не заинтересованы работать в АПК, поскольку считают унизительными и оскорбительными созданными для них условия.

– Это и невозможность проявить себя, и серьезная дискриминация их гражданских и человеческих прав, которая проявляется в принудительном распределении, – говорит Александр Ярошук, напоминая, что Международная организация труда рассматривает распределение как разновидность принудительного труда.

Хорошо, что белорусские власти понимаю ненормальность ситуации сложившейся в сельском хозяйстве, но нельзя всерьез рассуждать о том, что Br500 тысяч могут стать стимулом для молодого человека, уверен эксперт.

– Конечно, это смешные деньги, – соглашается и специалист в области сельского хозяйства Андрей Юрков. – Сейчас основная рабочая сила на селе – пенсионеры. Они получают колхозную зарплату и еще вдобавок пенсию – как раз средняя по республике зарплата и получается. Можно и жить. Если бы сразу пенсию доплачивали тем, кто приходит работать в колхоз, это бы еще могло повлиять на ситуацию.

Действительно, заработки в сельском хозяйстве – традиционно одни из самых низких в Беларуси. Начисленная среднемесячная зарплата по отрасли в первом полугодии составила Br3 миллиона 597 тысяч.

– Это тот случай, когда невозможно какими-то частными мерами, не решая принципиальную задачу, обеспечить нормальное функционирование отрасли сельского хозяйства, – подчеркивает Ярошук.

## ВМЕСТО УКАЗОК СВЕРХУ НУЖНА ЛИБЕРАЛИЗАЦИЯ

Серьезно повлиять на ситуацию может только экономическая и политическая либерализация в стране, считает профсоюзный лидер: «Пока этого не будет, никакие административные меры не способны решать и проблему молодых специалистов, и проблему сельского хозяйства как важнейшей отрасли экономики страны».

Агрокомплексу, как и любой сфере экономики, важно не мешать указками сверху, считает Андрей Юрков.

– Любая сфера экономики, которая работает на самофинансирование, а не финансируется из бюджета, сама будет создавать и зарплаты нужные, и прибыль, и уровень благополучия для людей. Главное – не мешать этому процессу.

Когда на месте дадут спокойно работать, тогда и молодежь начнет оставаться на селе, уверен специалист.

**ВЕРА БУЛГАЧ**

# ГОСУДАРСТВО ПО-ПРЕЖНЕМУ НЕ ОТКАЗЫВАЕТСЯ ОТ РЭКЕТА

**Власти Беларуси планируют принять меры, направленные на раскрепощение деловой инициативы в условиях объективно существующего предпринимательского риска. Однако представители белорусского бизнеса не рассчитывают, что в ближайшее время работать станет легче.**




*Рэкет может быть разным. Но сущность его не меняется*

## КАК БУДУТ РАСКРЕПОЩАТЬ БИЗНЕС

Вопросы совершенствования уголовного и уголовно-процессуального законодательства рассматривались 13 августа на совещании у президента Беларуси.

По информации пресс-службы президента, подготовлен проект Закона "О внесении дополнений и изменений в Уголовный, Уголовно-процессуальный, Уголовно-исполнительный кодексы Республики Беларусь, Кодекс Республики Беларусь об административных правонарушениях и Процессуально-исполнительный кодекс Республики Беларусь об административных правонарушениях".

> “Если послушать чиновников, то стало проще и лучше. А деловые люди говорят, что лучше не стало, – замечает предприниматель”.

Законопроект предусматривает исключение противоправности деяния при деловом риске, применение досудебного соглашения о сотрудничестве, внедрение уголовно-правовой компенсации, декриминализацию отдельных деяний, не представляющих большой общественной опасности, а также иные существенные преобразования в рассматриваемой сфере. В сторону смягчения предлагается скорректировать ряд статей УК, оптимизировать сроки наказаний, а также ввести альтернативные виды ответственности. Так, ряд статей законопроекта предусматривает введение штрафа вместо лишения свободы, уточняются возможности применения залога.

– Уголовный закон не должен быть пугалом для субъектов хозяйствования, действующих строго в рамках правового поля и никак не связанных с криминалом, – заявил во время совещания Александр Лукашенко.

## СВЕЖО ПРЕДАНИЕ

Словам президента в бизнес-кругах только рады. Но не разойдутся ли они с делом?

– Замечательно, что президент произносит такие правильные слова. Но, к сожалению, про «раскрепощение деловой инициативы» мы слышим довольно давно. Только судят ведь по делам, – говорит руководитель Ассоциации малого и среднего предпринимательства Сергей Балыкин. – Я полжизни занимаюсь бизнесом, и с 1994-96 гг Лукашенко все говорит о том, что предпринимательству в Беларуси быть. Но на практике почему-то получается расхождение с этими заявлениями.

В подтверждение Балыкин вспоминает президентский указ №488 о борьбе с лжепредпринимательством, подписанный осенью 2012 года, практика применения которого «свидетельствует как раз о том, что государство стремится расширить сферу ответственности субъектов хозяйствования».

Этот и другие нормативные акты свидетельствуют, что условия ведения бизнеса в лучшем случае не упрощаются, а в худшем – усложняются.

– Если послушать чиновников, то стало проще и лучше. А деловые люди говорят, что лучше не стало, – замечает предприниматель.

## «ЛЮБОЙ БИЗНЕСМЕН ПОНИМАЕТ, ЧТО НУЖНО ДАТЬ ВЗЯТКУ»

Правозащитник Андрей Бондаренко на собственном опыте испытал все «прелести» судебного преследования предпринимателей. Он провел почти 2 года за решеткой по обвинению в мошенничестве в особо крупных размерах. «Экономическое» дело было возбуждено после того, как Бондаренко в 2008 году обжаловал итоги выборов в Палату представителей, куда он баллотировался. 22 марта 2011 года Минский городской суд признал Бондаренко невиновным.

– Скорее всего, это будет косметический ремонт Уголовного кодекса, – заявил он корреспонденту «Тут і цяпер». – Просто Лукашенко чувствует, что бизнес начинает попросту бояться работать в Беларуси.

По его словам, механизмы давления на бизнес часто используются, чтобы запугивать людей и не давать им принимать участие в политической жизни: «Моя ситуация – яркий пример. Власти пошли на фальсификацию дела, по-

нимая, что разобраться в экономическом преступлении сложнее, чем в бытовых или каких-то гражданско-правовых отношениях. У нас частный бизнес хорошо понимает, что если кто-то отважится поддерживать оппозиционную структуру, то конечным итогом этого будет уголовное дело».

При этом Бондаренко отмечает, что сама система в Беларуси такова, что предприниматели иногда практически вынуждены идти на преступление.

– Мы находимся на одном из первых мест по сложности бухгалтерского учета в мире. Очевидно, что пока не будет реформирована бухгалтерская отчетность, налогообложение, люди все равно будут вынуждены совершать некоторые преступления. Не думаю, что теперь бизнес начнет работать свободно и открыто, доверяя государству. У нас как была, так и остается забюрократизированная система, требующая взяток. Любой участвующий в тендере бизнесмен понимает, что нужно давать взятку, потому что другим способом он не сможет полноценно конкурировать, – констатирует правозащитник.

Если избежать нарушений предпринимателям крайне трудно, то заменив лишение свободы штрафом, государство получит неплохую прибавку в бюджет?




*Много ли у нас изменилось с 1991 года?*

Такая практика уже существует, замечает Сергей Балыкин. В Ассоциацию малого и среднего предпринимательства нередко обращаются предприниматели, которым насчитали безумные штрафы и предлагают заплатить.

– Начинаешь разбираться с этими штрафами – неправильно насчитали, ошиблись. Государство ведет себя подобно рэкетиру и выбивает деньги любыми способами – это не секрет.

### ЛУЧШАЯ ПОМОЩЬ – НЕ МЕШАТЬ?

По официальной информации, законопроект, призванный облегчить работу предпринимателей, будет представлен на обсуждение депутатам совместно с юридическими кругами. Получается, с бизнесменами снова не посоветовались?

– Властям нужно просто перестать лезть в бизнес, – заявляет Балыкин. – Перестать помогать и раскрепощать. Отменить всякие указы и декреты.

Он уверен: чтобы регулировать предпринимательскую деятельность в Беларуси, достаточно нормативных актов, принятых парламентом. Избыточная опека бизнеса – стремление части чиновников оправдать свое существование, которые «не видят ничего лучше, кроме как показать, что белорусский бизнес тотально криминален, и ему нужен контролер на контролере».

– Хорошо, что государство обратило внимание на необходимость смягчения и декриминализации некоторых статей. Но, думаю, очевидно, что на практике ничего не изменится, – добавляет Андрей Бондаренко. – Дело не в Уголовном кодексе, хотя там есть ряд несовершенств. Проблема в той системе, которая сложилась в Беларуси.

**ЛЮДМИЛА ЯНЕНКО**

"У нас как была, так и остается забюрократизированная система, требующая взяток. Любой участвующий в тендере бизнесмен понимает, что нужно давать взятку, потому что другим способом он не сможет полноценно конкурировать, – констатирует правозащитник".

# ШАНЦЫ НА ВЫРАТАВАННЕ БЕЛАРУСКІ ЁСЦЬ

Анхар Кочнева цяпер спрабуе выратаваць беларуску Святлану Маркіяновіч. Яна разважае, як дзяўчаты сталі закладніцамі.

Анхар Кочнева, вядомая знаўца Усходу і журналістка з Дамаска, змагла каля пяці месяцаў таму ўцячы з палону паўстанцаў. Украінка па паходжанні, Анхар падчас вайны ў Сірыі стала вядомай публічнай асобай, якая беспаляцыйна выступае на баку ўрадавых войскаў. Журналістка займаецца вызваленнем ахвяр з палону і ведае камандзіраў па розныя бакі барыкад. Еўрарадыё стала вядома, што Анхар, як толькі пабачыла відэаролік з удзелам беларускі і малдаванкі, адразу пачала прадумваць варыянты іх вызвалення. Хоць сітуацыя няпростая.

*"Я думаю, што гэтыя дзяўчынкі не ўцякуць. Не думаю, што яны добра ведаюць краіну і што ў іх добра з арабскай мовай. Гэта будзе вельмі складана"*, — аналізуе Анхар Кочнева.

А мы думалі, што яны прыехалі ў Сірыю і выйшлі замуж. Значыцца, іх выкралі з поўначы Лівана і ўвезлі сюды. Я цяпер з арміяй, усіх азадачыла, пачынаем іх шукаць.

**- Як яны маглі там апынуцца? Ехалі, паводле слоў сваякоў, працаваць у Ліван танцоўшчыцамі.**

- Праўда? А мы думалі, што яны прыехалі ў Сірыю і выйшлі замуж. Значыцца, іх выкралі з поўначы Лівана і ўвезлі сюды. Я цяпер з арміяй, усіх азадачыла, пачынаем іх шукаць. Я прыкладна разумею, дзе яны і што адбываецца. Я тэлефанавала ў пасольства Беларусі, яны на той момант не былі ў курсе сітуацыі. Зараз будзем нешта рабіць, таму што мы ведаем, што трэба. Пакуль выкрадальнікі толькі размясцілі відэа.

- Шанцы на іх выратаванне ёсць. За іх хочуць выкуп, таму, мяркую, яны жывыя.

Наколькі я валодаю інфармацыяй, канкрэтных патрабаванняў пакуль няма.

**- Як можа развівацца сітуацыя і што з жанчынамі адбываецца цяпер?**

- Шанцы на іх выратаванне ёсць. За іх хочуць выкуп, таму, мяркую, яны жывыя.

**- Як лічыце, ці падвяргаюцца дзяўчаты гвалту?**

- Такое можа быць. Усё залежыць ад таго, хто там начальнік групоўкі, якая іх утрымлівае. У мяне быў чалавек больш-менш нармальны. Ён разумеў, што рана ці позна я выйду.

**- Якая цяпер у Сірыі абстаноўка? Паводле інфармацыі разнастайных тэлеканалаў, краіна падзелена на часткі і сітуацыя неадназначная.**

- Паўстанцы кантралююць некалькі месяцаў у краіне. Армія іх выцясняе. У чым жа была праблема, чаму бандыты захапілі гарады? План Анана прадугледжваў вывад арміі з гарадоў. Войскі вывелі — і іх захапілі бандыты. Многія вяртаюцца на бок урадавай арміі. Я днямі запісвала інтэрв'ю з былым вайскоўцам, ён перайшоў на той бок. Паглядзеў, што там нічога добрага няма, здаўся і цяпер зноўку працуе тут. Некага прымусам туды пагналі, нехта па дурасці пайшоў, нехта па грошы. Ніякай свабодай і дэмакратыяй там не пахне.

**ЯЎГЕН ВАЛОШЫН**

# ЦІ ГАТОВЫЯ ВЫ ДА ПАДВЫШЭННЯ КОШТАЎ НА "КАМУНАЛКУ"?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 2*

**ІНЭСА МЯСНІКАВА, НАСТАЎНІЦА, ШМАТДЗЕТНАЯ МАЦІ:**

### "ВЫЖЫВАЦЬ БУДЗЕ ЦЯЖЭЙ".

– Не гатовая, вядома. Для гэтага трэба істотнае павышэнне заработнай платы. Мая зарплата складае прыкладна трыста даляраў, у мужа крыху больш. У нас трое дзяцей. Грошай хапае толькі на ежу, на "камуналку", на такое-сякое адзенне і крэдыт на жытло. Калі істотна павысіць плату за "камуналку", што нам скараціць? Менш есці, не купляць адзенне? У мяне адказу пакуль няма. Пажывем, пабачым.

**СЯРГЕЙ КРУК, БІЗНЕСМЕН:**

### "НЕ ТРЭБА СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО БЯСПЛАТНЫ СУП БУДЗЕ СМАЧНЫ".

– Я згодная плаціць больш за "камуналку", бо куды ж ты збяжыш з гэтай "камуналкі". Вось, калі б у мяне быў свой дом, колькі бы я плаціла? Столькі, колькі мне патрэбна. Газу, электрычнасці і гэтак далей. А той "камуналкі", якая ў нас зараз ёсць... Кватэра, здаецца, мая. А наколькі яна мая? Шпалеры мае. А цэгла пад шпалерамі? Мая ці не мая? Не кажучы ўжо пра гарышчы, падвалы і пад'езды. А труба, па якой падаецца цяпло, яна чыя? Так што, пытанне пра "камуналку" не такое простае, як здаецца. Нават, калі багатыя паны пашлюць куды падалей усіх гультаяватых прыбіральшчыц і п'яных сантэхнікаў і створаць таварыства ўласнікаў жытла, каб наняць сабе прыбіральшчыцу з дыпломам кансерваторыі і сантэхніка – былога фізіка-атамшчыка. Каб плаціць адказным людзям за добрую працу без дзяржаўных датацый. Я не магу так зрабіць. Бо жыву не ў новым доме, а ў помніку архітэктуры сталінскай эпохі. Колькі скажуць плаціць, столькі і буду плаціць. На жаль, нехта за нас будзе клапаціцца, каб мы за яе не плацілі больш, а мы будзем удзячна мацюкацца ў адказ. За іх хрэнавую работу. Але лёгка вылечыць гэту праблему не атрымаецца. Усе датаваныя рэчы не могуць быць добрымі, гэта відавочна. Калі вам на плошчы даюць бясплатны суп і вы да яго прывыклі, то дай Бог Вам здароўя. Але наўрад ці трэба наракаць, што ён не смачны. Той "камунальны" суп, які вам даюць, ён таксама ня смачны. Але спадзявацца на тое, што ён заўжды будзе танны, няма ніякіх падставаў.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**




*А ў абсяжнай будучыні за «камуналку» прыйдзецца плаціць напоўніцу*



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 15.08.13
Тыраж 299 экзэмпляраў